«Народная Воля» в Facebook www.facebook.com/nv.online.info,
в Vkontakte www.vk.com/nvonlineinfo

№ 51 (4611)

9 ліпеня 2021 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай
і рускай мовах

Выдавец:УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.

*На простор, на шырокі разлог*
*Выходзі, мой народ, грамадою...*
**Якуб КОЛАС**

# Народная Воля

**Вялікі дзякуй усім, хто падтрымлівае «Народную Волю» ў гэты надзвычай цяжкі час.**
**Рэдакцыя.**

ПРАТЭСТ

## Спыніць знішчэнне беларускіх незалежных медыя!

*Заява ГА «Беларуская асацыяцыя журналістаў»*

Раніцай 8 ліпеня прадстаўнікі сілавых структур прыйшлі ў рэдакцыю незалежнага выдання «**Наша Ніва**» і дадому да работнікаў медыя. Супрацоўнікі рэдакцыі «НН» перасталі выходзіць на сувязь, у некаторых з іх прайшлі ператрусы. Пасля ператрусаў галоўнага рэдактара «Нашай Нівы» **Ягора Марціновіча** і рэдактара выдання **Андрэя Скурко** павезлі на допыт.

Адначасова Міністэрства інфармацыі заблакавала сайт «Нашай Нівы» «*на падставе апавяшчэння Генеральнай пракуратуры ў сувязі з размяшчэннем інфармацыі, распаўсюджванне якой забаронена пунктам 1 артыкула 38 Закона Рэспублікі Беларусь «Аб сродках масавай інфармацыі»*. Прычым доступ да сайта абмежаваны не толькі ў Беларусі, але і за мяжой.

Таксама стала вядома пра ператрусы ў рэдакцыях рэгіянальных выданняў «**Intex-press**» і «**Брестская газета**» (якія ў апошнія месяцы былі выкінуты з дзяржаўных сістэм распаўсюду і друку), а таксама ў журналіста і рэдактара сайта **Orsha.eu**.

Працягваецца ціск на партал **TUT.BY**. Лідзеяльнага пазаўчора Эканамічны суд г.Мінска ў закрытым пасяджэнні прызнаў законным рашэнне пасяджэнне пасазадовай камісіі аб прызнанні матэрыялаў партала экстрэмісцкімі. 15 супрацоўнікаў TUT.BY і звязаных з ім арганізацый знаходзяцца за кратамі.

Наогул за кратамі ці пад хатнім арыштам сёння ў Беларусі знаходзіцца 25 супрацоўнікаў медыяарганізацый (без уліку работнікаў «НН» і Orsha.eu, лёс якіх пакуль не вядомы).

ГА «Беларуская асацыяцыя журналістаў» звяртае ўвагу, што:

– пад выглядам барацьбы з экстрэмізмам улады спрабуюць знішчыць беларускія незалежныя медыя;

– вынік рэпрэсій супраць незалежных СМІ і журналістаў будзе супрацьлеглым таму эфекту, на які разлічваюць іх ініцыятары. Грамадства замест верыфікаванай і выкладзенай у адпаведнасці з журналісцкай этыкай інфармацыі будзе чытаць матэрыялы, якія не адпавядаюць нават мінімальным прафесійным стандартам.

ГА «Беларуская асацыяцыя журналістаў» патрабуе спыніць знішчэнне свабоднага слова ў Беларусі.

З ПЕРШЫХ ВУСНАЎ

## Чаму загарэўся касцёл у Будславе?

*Касцёл у Будславе загарэўся раніцай 11 мая. Менавіта ў ім знаходзіцца адна з найважнейшых святынь Беларусі – абраз Маці Божай Будслаўскай.*

Пажар удалося патушыць, але галоўнае яго наступства – дах выгараў і абваліўся. Зараз праводзяцца работы па аднаўленні касцёла, а таксама праходзіць збор грошай.

– Ці вядома ўжо прычына ўзгарання касцёла? – з такім пытаннем я звярнуўся да *пробашча парафіі ў Будславе ксяндза* **Дзмітрыя ДУБОВІКА**.

*– Афіцыйна прычына ўзгарання пакуль не агучваецца, – кажа мой суразмоўца. – Мяне і іншых выклікалі ў Следчы камітэт, і, наколькі я зразумеў, зараз следчыя праводзяць розныя экспертызы, а на гэта спатрэбіцца даволі працяглы час.*

*Але, на маю думку, пажар адбыўся з-за няспраўнай электрычнай праводкі, хаця, паўтаруся, эксперты павінны даць у выніку дакладную інфармацыю.*

Паводле слоў Дзмітрыя Дубовіка, на гэты момант закончана абследаванне касцёла, і зараз праект рэканструкцыі здаецца на экспертызу.

*– Праект прадугледжвае страхоўку купала і даху, – адзначае ён. – Таксама падпісваем дамовы са спецыяльнымі арганізацыямі на комплекснае навуковае даследаванне. У бліжэйшы час дадзім з нагоды таго, што зроблена, падрабязную справаздачу.*

Як вядома, быў распачаты збор сродкаў на аднаўленне касцёла, і па стане на ўчарашні дзень было сабрана амаль 880 тысяч рублёў.

*– Магчыма, назбіралі ўжо нават каля мільёна рублёў, бо ёсць яшчэ і валютная дапамога,* – дадае ксёндз Уладзімір Дубовік. *– Не ведаю, ці ўлічвалася яна...*

**Алесь СІВЫ.**

ПОЗДРАВЛЯЕМ!

## Приорбанк стал самым активным банком-эмитентом в Беларуси по версии ЕБРР

Приорбанк назван самым активным банком-эмитентом в Беларуси в 2020 году. Такой награды его удостоили эксперты Европейского банка реконструкции и развития (ЕБРР) за отличную работу в сфере документарного бизнеса. ЕБРР ежегодно определяет лучшие банки в рамках Программы содействия развитию торговли (TFP).

Программа TFP создана в 1999 году и направлена на стимулирование внешней торговли стран, в которые инвестирует ЕБРР. Он предоставляет гарантии подтверждающим банкам и краткосрочные кредитные ресурсы для финансирования местных экспортеров, импортеров и дистрибьюторов.

Мировая пандемия привела к резкому росту спроса на финансирование внешней торговли. В 2020 году TFP поддержала ее в глобальном масштабе более чем на 3,3 миллиарда евро, что стало рекордным объемом.

Приорбанк уже в 12-й раз получает награду ЕБРР за содействие развитию международной торговли клиентов. Ранее Приорбанк стал лучшим банком в Беларуси по версии экспертов двух влиятельных изданий – Global Finance и EMEA Finance. В EMEA Finance, в частности, отметили возможности банка по инвестированию и его лидерство среди других негосударственных банков.

З-ЗА КРАТАЎ

## Аляксандр Фядута – пра шпацыр пад ліўнем

Публіцыст і філолаг **Аляксандр Фядута**, якога абвінавачваюць у змове супраць улады, у адным са сваіх лістоў распавёў, што ў камеры СІЗА КДБ невыносна душна, аднак ён кожны дзень можа дыхаць свежым паветрам.

*«Радасць – шпацыр каля гадзіны дваццаці хвілін штодня,* – паведамляе Аляксандр Фядута. – *У апошнюю нядзелю чэрвеня, калі памятаеце, ішоў лівень. Усёй камерай вырашалі, ці ідзём мы на шпацыр. Усе чацвёра загарлапанілі «Так!!!» з такой сілай, што перакрычалі чаек, якія гарлапаняць за акном.*

*А кантралёр, які дзяжурыць, зрэдку ставіць класіку naўзамен року і папсы, якія ўжо абрыдлі. Такім чынам шпацыравалі мы пад праліўным ліўнем і пад музыку вялікага Антоніа Вівальдзі. Гэта было шчасце!*

*Праўда, потым трое сутак у камеры было не прадыхнуць ад вільгаці рэчаў, якія сохлі. Шорты – цяжкія, ільняныя, – высахлі апошнімі. Але ўражанняў гэты факт не адмяніў...»*

**Марына КОКТЫШ.**

ЭКСКЛЮЗИВ

### Андрей СУЗДАЛЬЦЕВ:

## «Лукашенко спасла белорусская оппозиция…»

*«Народная Воля» поговорила с политологом Андреем Суздальцевым, которого много лет назад депортировали из Беларуси. Все эти годы Андрей держит руку на пульсе белорусских событий. Но недавно прошла информация, будто его за необоснованную критику белорусской власти увольняют из Высшей школы экономики в Москве…*

**– Андрей, расскажите, как у вас дела? Как с работой? Увольняют вас или нет?**

– Ничего не скажу, не буду комментировать эту тему. Скажу только, что мне очень тяжело. Но я держусь, уже пятнадцать лет держусь!

**– Вас депортировали из Беларуси в 2006 году. И на пять лет запретили въезд. После вы приезжали в Минск?**

– Нет. Никогда не приезжал. Понимаете, какая штука: я ведь государственник. Мне сказали тогда, что я представляю угрозу национальной безопасности, – я собрался и поехал. Я не пойду против государства никогда. Могу пойти против правительства, но не против государства.

А потом возвращаться было нельзя. Как раз в то время, когда истек срок запрета, в Минске взяли в заложники Владислава Баумгертнера, бывшего гендиректора компании «Уралкалий».

**– Ну вы сравнили! У вас же нет столько денег, сколько у Баумгертнера!**

– Тем не менее около двух месяцев он провел в не очень комфортных условиях. Поэтому, глядя на эту историю, я подумал, что, если вдруг что, меня уже никто не вытащит.

**– Вы довольно жестко высказываетесь по поводу белорусских событий. Каких-то угроз или просьб быть более осторожным ни от кого не поступает?**

– Знаете, только от коллег противоположного экспертного белорусского лагеря. Когда-то требовали от КГБ Беларуси меня выкрасть, несколько лет были призывы меня убить. Сейчас всё утихло. Но я стараюсь не преувеличивать свою значимость. Я не такая уж и величина.

Всякие были разговоры… Помните, не так давно появилась знаменитая запись,



в которой представители спецслужб вели речь об убийстве Павла Шеремета, меня там упоминали следующим после него…

Шеремет пока был в Москве, всё было нормально, а уехал в Киев – и погиб там.

**– Вы место жительства менять не собираетесь?**

– Пока Лукашенко у власти, конечно, я в Минск не поеду. Но я верю, что когда-нибудь всё же вернусь.

**– У вас в Беларуси осталась какая-то недвижимость?**

– Мы люди, очень тяжело и скромно живущие. Никаких дворцов у меня нет. К стыду сказать, к своим годам я так ничего и не заработал…

**– Ваши дети живут в Москве?**

– Да, через некоторое время после депортации семья приехала ко мне. Дети уже взрослые. Получили хорошее образование, хорошие вузы окончили, дочка даже магистром стала. Работают, живут почти самостоятельной жизнью.

**– Я по вашему голосу слышу, что шрамы на сердце от той истории с депортацией у вас остались…**

– Да, ведь жизнь была обрушена… Всё пришлось начинать с нуля. Я до конца так и не пережил эту драматическую историю, поэтому, конечно, сердце еще болит…

**– Вы, наверное, сегодня, как никто другой, понимаете тех, кто вынужден уезжать из страны, оставляя здесь свое жилье, родственников, кучу каких-то любимых вещей и строить всё с нуля на чужбине. А ведь накопления на внезапную эвакуацию есть не у всех…**

– Чаще всего денег нет. У меня так было. Вообще, политическая эмиграция, депортация – это почти всегда нищета, неизвестность и безнадежность. К этому очень трудно привыкнуть.

Меня депортировали фактически на родину, но моя малая родина очень далеко, на Дальнем Востоке – я родился во Владивостоке. Специфика моей работы требует нахождения в Москве, а это очень дорогой город.

**– Но вы всё равно неплохо устроились, нашли работу, получили хорошую должность, стабильную зарплату…**

– Всё это никогда не покроет издержки. Годы идут, много денег уходит на здоровье – на лекарства, на врачей. Периодически я болею, и недавно вот вышел из больницы. Постоянно нужно оплачивать какие-то счета – от этого никуда не денешься. Поэтому я и говорю: те, кто уезжает, обрекают себя на долгие годы нищеты. Будет очень трудно.

**– Всё равно многие уезжают – с маленькими детьми, без денег, но подальше от репрессий. Какой совет вы дали бы этим людям?**

– Я хочу сказать, что отъезд даже для людей состоятельных – не панацея. Если только изначально люди жили на несколько домов в разных странах. И то это может быть травмой!

Например, я не могу посетить могилы своих родных и близких. Это драма.

За то время, что я уехал из Беларуси, умерло немало моих друзей, и я не был на их похоронах, не смог попрощаться. Умерла моя теща, у нас были очень хорошие отношения. Несмотря на то, что я русский, я очень хорошо вошел в белорусскую семью своей жены, они все для меня родные. А я не смог приехать в Минск, чтобы проводить ее в последний путь.

**– А жена ездила на похороны?**

– Да. Она вне политики.

**– Супруга работает в Москве?**

– Нет, она пенсионерка.

Поэтому эмиграция – это очень тяжело. И отъезд – совсем не панацея, он не решит проблему. Отъезд по политическим причинам – это бегство от себя, а не решение проблем. Проблемы нужно решать на месте. Да, это опасно. И я прекрасно понимаю, что режим выталкивает людей: сажает, штрафует, запугивает. И Бабарико дали 14 лет... Но я думаю, что он скоро выйдет.

**– Амнистия, помилование, власть поменяется – какой из этих сценариев имеете в виду, кого говорите «скоро»?**

– Скорее всего, власть поменяется.

**– Не знаю, все ли разделяют ваш оптимизм…**

– Есть просто объективные вещи.

Из Минска, может, и по-другому ситуация видится. Но я со стороны смотрю.

Сегодня многим кажется, что весь мир только и говорит про Беларусь. Это совсем не так. Даже в Москве не все сконцентрированы на этом вопросе…

Возвращаясь к теме вынужденной эмиграции, еще раз повторю: это невероятно тяжело. Но я никого не обвиняю. Помните, как Александр Федута, которого обвиняют в заговоре против власти, сказал: *«Да, я признаю себя участником заговора»?* Он иначе просто не может. Это позиция.

Был ли я опасен для Лукашенко? Был. Я и сейчас для него опасен.

**– Чем? Вы ведь аналитик, а не киллер.**

– Я борюсь с режимом. Как могу. И каждый день спрашиваю себя, что могу сделать для перемен. И делаю. Поэтому, конечно, я опасен. Как и остальные сотни тысяч граждан, которые не разделяют политику властей.

*(Окончание на 2-й стр.)*

СУМНАЯ СТАТЫСТЫКА

# Колькі гадоў турмы атрымлівалі апаненты Лукашэнкі



Подпіс да здымка: Віктар Бабарыка ў дзень агучвання выраку да 14 гадоў зняволення. Мінск, 6 ліпеня 2021 года.

6 ліпеня Вярхоўны суд Беларусі пакараў Віктара Бабарыку 14 гадамі пазбаўлення волі. Так жорстка не каралі ніводнага з апанентаў Аляксандра Лукашэнкі за 27 гадоў ягонага кіравання.

Цягам найноўшай гісторыі Беларусі апаненты Аляксандра Лукашэнкі атрымлівалі жорсткія тэрміны. Вось некаторыя з іх.




### Павел Севярынец: 7 гадоў турмы

Адзін з лідараў стварaемай партыі «Беларуская хрысціянская дэмакратыя». Адбываў пакаранне некалькі разоў, дзясяткі разоў быў асуджаны да адміністрацыйных спагнанняў – арыштаў і штрафаў.

У 2005-м быў асуджаны на 3 гады абмежавання волі нібыта за арганізацыю акцый пратэсту.

У 2011-м ізноў асуджаны на 3 гады абмежавання волі пасля пратэстаў супраць вынікаў прэзідэнцкіх выбараў. Вызвалены ў 2013-м.

7 чэрвеня 2020 года арыштаваны і пазней абвінавачаны ў нібыта падрыхтоўцы масавых беспарадкаў. Асуджаны на 7 гадоў калоніі строгага рэжыму.

### Мікалай Статкевіч: 6 гадоў турмы. Ідзе чарговы суд

Шматгадовы лідар беларускай апазіцыі. Неаднаразова сядзеў у турме.

Мікалая Статкевіча затрымалі адразу пасля Плошчы-2010. У маі 2011 года яму прысудзілі 6 гадоў зняволення ў калоніі ўзмоцненага рэжыму. Статкевіч не пісаў прашэння аб памілаванні і пацвердзіў інфармацыю аб катаваннях, якую агучыў Алесь Міхалевіч. Выйшаў на волю 22 жніўня 2015 году згодна з указам Лукашэнкі аб памілаванні. З таго часу не раз затрымліваўся і адбываў адміністрацыйныя пакаранні. У 2017 годзе, паводле яго слоў, зноў быў затрыманы і змешчаны ў СІЗА КДБ перад Днём Волі.

31 мая 2020 года Мікалай Статкевіч быў затрыманы па дарозе на выбарчы пікет Святланы Ціханоўскай ля Камароўскага рынку. Спачатку Статкевіча пакаралі адміністрацыйным арыштам на 15 сутак, да якіх пасля дадалося яшчэ 15. Напрыканцы чэрвеня Статкевіча перавялі ў СІЗА і выставілі абвінавачанні паводле крымінальнага артыкула 342. У гэтыя дні ў Гомелі ідзе суд.

### Аляксандр Казулін: 5,5 года турмы

25 сакавіка 2006 года ўдзельнічаў у акцыі пратэсту, падчас якой людзі рушылі ў бок турмы на Акрэсціна. Акцыю жорстка разагналі.

Аляксандра Казуліна затрымалі і абвінавацілі ў злосным хуліганстве і арганізацыі масавых беспарадкаў. Пазней яму прысудзілі 5,5 года зняволення. У турме Казулін трымаў галадоўку, яго прызналі вязнем сумлення. У 2008 годзе Аляксандр Лукашэнка памілаваў яго адмысловым указам. Больш Аляксандр Казулін палітычнай дзейнасцю не займаўся.

### Дзмітрый Ус: 5,5 года турмы

Дзмітрыя Уса не затрымлівалі ўвечары 19 снежня. Ён заставаўся падазраваным у справе аб арганізацыі масавых беспарадкаў, знаходзіўся пад падпіскай аб нявыездзе. У маі 2011-га Дзмітрыя Уса асудзілі на 5,5 года пазбаўлення волі ў турме ўзмоцненага рэжыму. За кратамі Дзмітрый Ус трапіў у лякарню, атрымаў другую групу інваліднасці. Ён не падаваў прашэння на імя Лукашэнкі; у кастрычніку 2011 года быў памілаваны і выйшаў на волю. Палітыкай цяпер не займаецца.

### Андрэй Саннікаў: 5 гадоў турмы

Андрэя Саннікава пры затрыманні на плошчы каля Дому ўрада моцна збілі, яму прысудзілі 5 гадоў за арганізацыю масавых беспарадкаў. Саннікава памілавалі і выпусцілі датэрмінова ў красавіку 2012 года пасля прашэння на імя Лукашэнкі. Міжнародная супольнасць прызнала яго вязнем сумлення. Ён эмігрыраваў у Вялікабрытанію, дзе атрымаў палітычнае прыстанішча. Яго жонка Ірына Халіп засталася ў Мінску.

### Міхаіл Марыніч: 5 гадоў турмы

Быў міністрам знешнеэканамічных сувязяў, дэпутатам Вярхоўнага Савета, дыпламатам.

Выставіў сваю кандыдатуру на прэзідэнцкіх выбарах 2001 года, не быў зарэгістраваны.

26 красавіка 2004 года быў арыштаваны КДБ і пазней асуджаны на 5 гадоў узмоцненага рэжыму з канфіскацыяй маёмасці. Прызнаны палітвязнем. Вызвалены ў 2006-м па амністыі. Памёр у 2014 годзе.

ЭКСКЛЮЗИВ

## Андрей СУЗДАЛЬЦЕВ:

# «Лукашенко спасла белорусская оппозиция…»

*(Окончание. Начало на 1-й стр.)*

**– Вы вспомнили Федуту... А расскажите, что думаете по поводу громкого дела о заговоре и покушении на Лукашенко?**

– Я уже говорил как-то: таких заговоров в Беларуси много, на кухнях столько всего разного обсуждают, такие сценарии – один страшнее другого!

Федута, безусловно, это интеллектуальная элита страны. Но при всем своем уме он феноменально наивен. Они очень много обо всем этом говорили, так не делаются заговоры…

Федута – неплохой политтехнолог, не понимаю, как он не понял, что их вели с самого начала, что их банально использовали… Он, конечно, яркий персонаж, но там были и другие, более активные и более решительные. Стащили профессора с дивана и сделали одним из главных заговорщиков. Ну смешно!

**– В день, когда вынесли приговор экс-председателю «Белгазпромбанка», в своем телеграм-канале вы написали: *«Бабарико пошел в бой с диктатурой с открытым забралом в стиле типичной европейской демократии. Это было роковой ошибкой…»* После выборов 2010 года были попытки провести работу над ошибками. Как думаете, сейчас такой анализ нужен? И чьи ошибки видите вы в президентской кампании 2020 года?**

– Это огромная тема, конечно, но я попытаюсь сформулировать кратко.

Ситуация, которая сложилась в 2020 году, была уникальной. По всем раскладам режим должен был пасть. В том, что он удержался, на мой взгляд, виновата наша дорогая белорусская оппозиция. Именно она спасла Лукашенко.

В Беларуси небольшая, но яркая и националистичная оппозиция, ее активисты наперечет. За все свои годы существования оппозиционеры никак не могут определиться, против кого им воевать – против Лукашенко или против Москвы? Против Москвы всегда было проще. Но в данной ситуации население Беларуси против интеграции. И когда в декабре 2019 года Лукашенко отказался подписать дорожные карты с Россией, тут же началась нефтяная война. Затем Россия огромные деньги вкладывала в борьбу с ковидом, а Лукашенко решил бороться с ним водкой. И таким образом тот базовый электорат, который всегда голосовал за Лукашенко, отвернулся от него. И получился большой протестный блок, который просуществовал примерно до середины сентября. Этот блок выступал за суверенитет, частично за белорусский язык, Россия ему нужна как страховка и поддержка. И наша белорусская оппозиция вместо того, чтобы использовать этот дар Божий, попыталась его оседлать: завела дискуссию о языке, с какими флажками идти на марши, почему не стоит национальный вопрос, бесконечные хождения по кругу с сердечками, зонтиками и так далее. И в какой-то момент люди просто поняли, что это просто дурь какая-то. На мой взгляд, националисты спасли Лукашенко. Потом говорили, что власть падет весной, затем – диалог с властью в мае, и так далее.

Я не могу говорить, что тот же Павел Латушко должен был остаться в Минске. Не могу никого осуждать, но если бы я имел белорусский паспорт, то действовал бы по-другому.

**– Как любят говорить некоторые наблюдатели, всех не посадят…**

– Возможности у власти тоже ограничены, всех же кормить нужно. Лагеря что ли в Европе в XXI веке строить? Но страха нагнали, конечно.

**– Как думаете, по амнистии, о которой много говорят в последнее время, выпустят тех, кого правозащитники признали политзаключенными?**

– Трудно сказать. Всё зависит от тех переговоров, которые идут тайными тропами. Это будет чистой воды сделка.

**– Недавно Григорий Азарёнок в своем телеграм-канале, комментируя попытку покушения на него, сказал: *«Они с удовольствием бы нас поубивали и перевешали...»* Вам не кажется, что сегодня градус ненависти одинаково высокий как у сторонников власти, так и у ее противников?**

– Было очень много мифов о какой-то особой толерантности белорусов. Но сегодня от нее не осталось и следа. Я много раз наблюдал: каждый знает, в какой храм ходит его сосед. Это о многом говорит.

Белорусы – не очень дружный народ, так сложилось исторически. И в прошлом году родственники сдавали друг друга из-за разных политических взглядов…

**– Но сейчас многие отмечают: белорусы как никогда солидарны.**

– Это феномен минувшего года. Когда казалось, что все вместе, а не по кухням и по хуторам.

Среди сторонников Лукашенко тоже не было единства, многие тоже ошарашены террором, который ведет власть.

Так что раскол есть, и он большой, сродни гражданской войне.

**– И что с этим делать?**

– Лукашенко решает эту проблему весьма своеобразно. Он категорично провозгласил, что мир объявил войну Беларуси. И надеется, что людей это объединит, они встанут на защиту страны, потянутся к нему и к власти. Это примитивно. И при этом он предлагает своим оппонентам не реальный диалог, а покаяться и смириться.

Перспектива, на мой взгляд, плохая. Если ничего не поменяется в политике властей, то этот раскол общества снова приведет к столкновениям, к гражданской войне.

**– Хм… По-вашему, наивно думать, что люди запуганы настолько, что снова не выйдут на улицы?**

– Страх всегда рождает ответ. Мы наблюдаем сейчас и страх власти…

Сейчас ситуация как в семье, которая распалась, а потом снова решила жить вместе. А старые-то обиды и претензии остались.

**– В семье, если есть любовь, друг друга прощают.**

– А как простить, если власть ошибок не признаёт?

А если признает, значит, нужны новые президентские выборы…

**Марина КОКТЫШ.**

### Из личного дела

*Андрей Суздальцев родился в 1960 году во Владивостоке.*

*Окончил Дальневосточный университет, аспирантуру Академии труда (Москва). Кандидатскую диссертацию защитил в 1989 году (исследование было посвящено США).*

*Политолог Суздальцев работал в Беларуси с 1993-го по 2006 год. Как написано в Википедии, «поддержав в целом основы российско-белорусской интеграции, постепенно вступил в конфликт с белорусскими властями. Суть конфликта заключалась в неприятии авторитарного режима А.Лукашенко, критике попыток белорусских властей имитировать интеграционный процесс с Россией и иждивенческой по отношению к России национальной экономической модели» и так далее.*

*В марте 2006 года был лишен вида на жительство и депортирован в Россию. Ему на 5 лет был запрещен въезд в Беларусь. Как заявили журналистам представители паспортно-визовой службы, «в решении о его депортации был указан тот факт, что Суздальцев представляет собой угрозу национальной безопасности Беларуси». Первый гражданин Российской Федерации, ставший* ***persona non grata*** *в Республике Беларусь.*

*Был членом экспертного совета комитета по международным делам Совета Федерации России. Член экспертного совета Комитета Совета Федерации по делам Содружества Независимых Государств.*

*В настоящее время работает на кафедре мировой политики Московского госуниверситета – Высшей школы экономики.*

ПРАТЭСТ

# Хто такія «Сябры Валыні»?

*Сёмага дня кожнага месяца некалькі чалавек, якія называюць сябе «Сябрамі Валыні», збіраюцца ля пасольства Беларусі ў Кіеве пад чырвона-зялёнымі сцягамі.*

На гэтым тыдні яны традыцыйна сабраліся ля пасольства, але падчас акцыі адбыўся канфлікт з прадстаўнікамі ўкраінскіх правых рухаў. У выніку адбылася бойка, прыехала паліцыя, некаторых затрымалі.

Пасольства Беларусі ва Украіне пасля гэтага нават накіравала ў МЗС краіны ноту, у якой выказала *«сур'ёзную занепакоенасць сітуацыяй, выкліканай недастатковымі мерамі, якія прымаюцца ўкраінскім бокам для забеспячэння бяспекі дыпламатычнай місіі ў Кіеве»*.

У беларускай дыпламатычнай місіі з гэтага інцыдэнту зрабілі выснову пра яго *«мэтанакіраваны і загадзя спланаваны характар»*.

Хто ж такія «Сябры Валыні»? Яны пазіцыянуюць сябе арганізацыяй, якая аб'ядноўвае этнічных беларусаў.

Яшчэ ў мінулым годзе гэтыя «сябры» праводзілі пікет ля Пасольства ЗША ў Кіеве. З дзяржаўнымі беларускімі сцягамі яны патрабавалі ад амерыканскіх дыпламатаў спыніць умяшальніцтва ЗША ў справы суверэннай дзяржавы.




У лістападзе 2020 года «Сябры Валыні» напісалі зварот да Аляксандра Лукашэнкі з просьбай абараніць этнічных беларусаў – грамадзян Украіны ад нападак нацыяналістаў, хаця, наколькі вядома, адказу так і не атрымалі. Пастаянна праводзяць пікеты ў падтрымку беларускай улады.

Узначальвае гэтую суполку 41-гадовы **Міхаіл Кананович** – кіраўнік украінскага камсамола. У базе «Міратворац» ён значыцца, як *«актыўны ўдзельнік антыўкраінскіх і прарасійскіх акцый, які праводзіць сепаратысцкую агітацыю. Супрацоўнічае з прадстаўнікамі Камуністычнай партыі Расіі, нярэдка выязджае ў Расію»*.

Таксама Кананович быў членам КПУ, загадчыкам аддзела Валынскага абласнога камітэта Кампартыі Украіны.

Адным словам, як казаў мудры чалавек: «Скажы мне, хто твой сябар, і я скажу, хто ты».

**Віктар ШПАК.**

Народная Воля
http://www.nv-online.info
9 ЛІПЕНЯ 2021 г.

НЕ МАГУ МАЎЧАЦЬ!

## Алесь КРАЎЦЭВІЧ:

# «Беларускі Нюрнберг расставіць усіх на свае месцы – і катаў, і ахвяр»



*Герб «Пагоня» і бел-чырвона-белы сцяг для сённяшняга рэжыму – як чырвоная ануча для індыка. Сілавікі з імпэтам затрымліваюць, а суды лёгка адпраўляюць за краты людзей за чырвоны паясок на белай сукенцы, за налепку з «Пагоняй» на аўтамабілі, за бялізну, развешаную на балконе «па схеме б-ч-б». Даходзіць да кур'ёзаў – у Рэчыцы грамадскі актывіст быў адпраўлены на суткі за змешчаны на майцы афіцыйна зацверджаны (!) рэчыцкі герб (ён падобны на «Пагоню»).*

*Што стаіць за гэтай вайной з сімваламі? Мой суразмоўца – доктар гістарычных навук* ***Алесь КРАЎЦЭВІЧ****.*



**– Алесь, чаму ўлада так апантана змагаецца з тым, што павінна, як на добры лад, ахоўваць?**

– Я лічу, што гэта проста дурноцце. Калі нейкую з'яву нельга знішчыць ці забараніць, яе трэба браць пад кантроль. Бел-чырвона-белы сцяг – святыня для мільёнаў беларусаў. Гэта ўжо з'ява, якую знішчыць немагчыма. Амаль ва ўсіх краінах Еўропы падчас Другой сусветнай вайны былі калабаранты, якія пад нацыянальнымі сцягамі супрацоўнічалі з немцамі. Але потым іх урады – камуністычныя і капіталістычныя – не адмовіліся ад нацыянальных сцягоў. Гэта вялікая памылка Лукашэнкі і яго рэжыму – у стратэгічным плане, – што ён спрабуе забараніць сцяг. Паўтаруся: тое, што сёння робіцца з боку ўлады, – гэта поўнае дурноцце, але гэта дурноцце працуе на яшчэ большую сакралізацыю бел-чырвона-белага сцяга. Прайшоўшы праз усе забароны, ён будзе яшчэ больш «выпакутаваны» і каштоўны для беларусаў, для цэлай нацыі.

**– Хтосьці разумны сказаў: хто стрэліць у гісторыю з рагаткі, у таго гісторыя стрэліць з гарматы. Навошта беларуская ўлада два з паловай дзясяткі гадоў усё страляе і страляе ў мінулае з рагаткі?**

– Гэта яшчэ адно дурноцце. Той аўтарытарны рэжым, які сёння спрабуе перарасці ў таталітарны, ніколі не меў у сваёй аснове нацыянальнай ідэалогіі. А якраз аснова любога аўтарытарнага рэжыму ў Еўропе – іспанскага (франкісцкага), партугальскага ці польскага – нацыяналізм. Ён надзейны, ён масава сядзіць у падсвядомасці. А што ў аснове беларускага рэжыму? Фактычна пэўнай ідэалогіі ніякай няма. **Выкарыстоўваецца любая ідэалагічная ўстаноўка, якая служыць утрыманню ўлады**. І тут яшчэ дадаецца савецкае выхаванне Лукашэнкі, яно ўвесь час дае пра сябе знаць і часта перамагае на ірацыянальным узроўні. Бо на ўзроўні рацыянальным, каб утрымаць уладу як найдаўжэй, яму трэба было стаць беларускім нацыяналістам. І меў бы падтрымку і патрыётаў, і дэмакратаў на пэўных этапах.

**– Але страціў бы падтрымку Крамля…**

– Вось-вось. Гэта выбар Лукашэнкі, які спрыяе тактычнаму, але не стратэгічнаму захаванню ўлады. Але раней ці пазней спрацоўваюць стратэгічныя чыннікі. Маса народа павярнулася да нацыянальнай ідэалогіі, да гістарычных сімвалаў – гэта відавочна. Помніш, і ва ўлады былі рэверансы датычна гісторыі – ВКЛ прызнавался як пэўны этап беларускай дзяржаўнасці. Але потым усплывала саўковая падсвядомасць, і ўсё адкручвалася назад. Палітыка Лукашэнкі вельмі недальнабачная, бесперспектыўная нават для яго самога. Так, яна дазваляла атрымліваць тактычныя перамогі – быць пры ўладзе 27 гадоў. Але далей – поўны тупік.

**– Бацька гісторыі Герадот заклікаў вывучаць гісторыю па рэках. Некаторыя нашы рэкі (напрыклад, Прыпяць) маюць такое пакручастае рэчышча, што часам разварочваюцца і плывуць ледзь не назад. Можа, і шлях беларускага народа таму такі пакручасты?**

– Гэтая тэорыя вельмі даўняя, але яна ў нас не працуе, бо Беларусь – выключэнне з правіла. Так, ёсць такі стэрэатып: немцы жывуць вакол Рэйна, палякі – вакол Віслы, украінцы – вакол Дняпра, расіяне – вакол Волгі. А Беларусь размешчана на водападзеле. Ад Брэста да Віцебска праходзіць водападзел паміж Балтыйскай і Чарнаморскай воднымі сістэмамі. Сыходзячы з гэтага, некаторыя гісторыкі выказваюць гіпотэзы, што нашы водныя натуральныя рубяжы нас не яднаюць, а дзеляць. Мне тут больш падабаецца версія польскага даследчыка Лешака Беднарчука: чыннікам, які сабраў, сцэментаваў у адзінае цэлае разрозненыя рэгіёны, была дзяржаўная арганізацыя ВКЛ.

**– Ці разглядаеш ты падзеі, што адбываюцца ў сённяшняй Беларусі, як разгром, як паразу нацыянальнага руху?**

– Не, мне гэта бачыцца як зацягнутая хвароба росту. Усе маладыя дзяржавы прайшлі праз хваробу аўтарытарызму. Літоўцы, палякі і латышы пераадолелі яе яшчэ ў міжваенны перыяд, бо перад гэтым мелі свае незалежныя дзяржавы. Аўтарытарызм – як адзёр, праз яго абавязкова трэба прайсці, выпрацаваць імунітэт. Я, напрыклад, хварэў позна, у 16 гадоў. Блізкія геаграфічна і ментальна краіны – Украіна і Беларусь – не мелі ўласнай дзяржавы ў міжваенны перыяд і пачалі ачуньваць ад гэтай хваробы толькі пасля развалу Савецкага Саюза. Украіна вылечылася ў 2014 годзе, мы трохі запазніліся. Вядома, калі браць канкрэтныя лёсы, гэта выглядае страшна, часам трагічна. Але я, як гісторык, мушу глядзець значна шырэй. Сёння мы перажываем апошні крызіс перад выздараўленнем.

**– Калі ж тое выздараўленне настане?**

– Гэтага ніхто сказаць не можа. Усе прагназісты ўжо замаўчалі. Але выглядае на тое, што блізка. Самалёт ужо пікіруе. Лётчык увайшоў у піке.

**– Алесь, ты таксама трапляў пад затрыманні гродзенскім АМАПам. Тое, што расказваюць пра мінскія СІЗА, – гэта проста жах. Як з гэтым у Гродне?**

– У параўнанні з іншымі пра маю адсідку смешна і казаць. Я сядзеў усяго трое сутак (да суда) ва ўмовах амаль што камфортных – 4 чалавекі ў чатырохмясцовай камеры, нават бялізна была. Калі абстрагавацца ад такіх момантаў, як заглядванне ў задніцу…

**– А што гэта за працэдура?**

– Перад пасадкай і вызваленнем ты распранаешся, апускаеш трусы да каленяў, тройчы прысядаеш і нахіляешся. А наглядчык заглядвае, ці не праносіш ты там чагосьці...

**– Табе ўдавалася абстрагавацца? Ці гэта абражала цябе?**

– А які сэнс абражацца на вецер, на дождж? Навошта траціць свае душэўныя сілы? Я іх траціў на тое, каб падтрымліваць сакамернікаў, – чытаў ім лекцыі. Стараўся да сітуацыі ставіцца з гумарам, адаспацца. Зашываўся ў куток, каб святло не біла ў вочы, і спаў (можна было і днём). Потым мне далі невялікі штраф – 10 базавых. Таму я свой нявольніцкі досвед ніякім чынам не параўноўваю з тымі пакутамі, праз якія прайшлі і праходзяць людзі ў ІЧУ на Акрэсціна.

**– Як успрымалі турэмныя наглядчыкі тваю беларускую мову?**

– З імі я гаварыў толькі па-беларуску. Рэакцыі з іх боку ніякай не заўважыў. Перад сабою я бачыў людзей, якія даражаць сваім месцам, стараюцца ўсё рабіць па інструкцыі. У мяне быў псіхалагічны кантакт з чалавекам, які там служыў (ён аказаўся калегам па адукацыі). Дык ён зрабіў мне паслабленне – прымусіў прысядаць з голай задніцай усяго адзін раз, калі выпускаў.

**– Якія, аднак, смелыя людзі працуюць у гродзенскім ІЧУ!.. А як ты ставішся да эканамічных санкцый, якія цяпер уводзяцца супраць беларускіх прадпрыемстваў? Пагоршыцца ж жыццё людзей…**

– Дзеля свабоды трэба пацярпець. І перажыць пагаршэнне жыцця. Каб нашы дзеці і ўнукі жылі лепш.

**– Супраць Кубы санкцыі дзейнічалі дзесяцігоддзямі, супраць Паўночнай Карэі – таксама. Вынікаў асаблівых не відаць.**

– Нельга параўноўваць Беларусь з Паўночнай Карэяй – у нас розны гістарычны досвед, розны ўзровень грамадства, зусім іншая геаграфічная сітуацыя – мы на скрыжаваннях Еўропы. Нікому не ўдасца зрабіць з Беларусі другую Паўночную Карэю. Рэпрэсіі лукашэнкаўскага рэжыму я ўспрымаю, як буран з навальніцай. Навальніца не бывае гадамі.

**– Але пасля яе застаюцца паваленыя платы, выкарчаваныя з карэннем дрэвы, абарваныя правады, разбураныя хаты…**

– Усё гэта ўжо ёсць і будзе яшчэ. Што ж, другога выйсця няма. Нічога страшнага, з цягам часу ўсё адновім.

**– Улада збіраецца закрыць у Беларусі Інстытут Гётэ, іншыя замежныя інстытуцыі, якія нямала падтрымлівалі беларускія праекты. Уладзімір Макей выступаў з адмысловай заявай на гэты конт. Гэта паставіць крыж на грамадзянскай супольнасці?**

– Заява Макея – гэта вядомы сафістычны прыём: зрабіць вінаватай ахвяру, а не ката. Улада так і робіць. Я перакананы, што беларускі Нюрнберг (а ён абавязкова адбудзецца) расставіць усіх на свае месцы – і катаў, і ахвяр. Думаю ўсё ж, што грамадзянская супольнасць выжыве. Трэба проста працаваць, старацца берагчы сябе і ведаць, што гэта навала хутка скончыцца.

**– Беларусь пакінулі ўжо тысячы актывістаў. Якое тваё стаўленне да тых, хто ўжо з'ехаў ці плануе з'ехаць за мяжу?**

– Асабіста я не хацеў бы кудысьці з'язджаць, але не выключаю гэтага. Калі будзе існаваць рэальная пагроза для жыцця... Я не асуджаю тых, хто з'ехаў. Ведаю шмат людзей, якія, пакінуўшы Беларусь, робяць для яе больш, чым многія з тых, хто застаўся. Але ёсць і такія, хто проста выкарыстоўвае сітуацыю і шукае лягчэйшыя шляхі для паляпшэння свайго матэрыяльнага становішча... Калі ж выбар – сесці ў турму альбо эмігрыраваць, я за апошняе. Выехаўшы, я буду працаваць у Беластоку ці Варшаве, напішу яшчэ некалькі кніг для Беларусі, якія застануцца. Калі ж падарву здароўе ў турме – гэта нічога не дасць і нікому не дапаможа.

**– Значыць, ты не ўспрымаеш эміграцыю як пэўную капітуляцыю?**

– Не ўспрымаю. Звернемся да гісторыі ВКЛ. Калі нейкі баярын уцякаў ад князя, каб атрымаць ад нямецкага ордэна зямлю, гэта была здрада. А калі князь Вітаўт, звязнены Ягайлам у Крэўскім замку, уцёк і выехаў у Прусы, то сабраў там паплечнікаў. І потым вярнуўся, стаў на радзіме вялікім князем. Гэта была не здрада, а часовая палітычная эміграцыя. Палітычны эмігрант з'язджае, бо не можа тут працаваць, але пры першай магчымасці ён павінен вярнуцца.

**– Хтосьці з'ехаў, хтосьці сядзіць… Якую ты можаш даць параду тым, хто тут і на волі?**

– Па-першае, па-дурному не падстаўляцца. Не пісаць эмацыйных глупстваў у сацыяльных сетках, стрымліваць сябе. Па-другое (гэта самае важнае), не здавацца. Не ісці на супрацоўніцтва з уладай, не запабягаць, як Юрый Васкрасенскі. Не здавацца – як не здаюцца Павел Севярынец, Мікола Статкевіч. Для мяне яны – героі нашага часу. Маўчанне Севярынца – большае геройства, чым нейкія заявы.

**– «Чем столетье интересней для историков, тем для современников печальней», – пісаў расійскі паэт Мікалай Глазкоў. Чым наш час будзе цікавы для гісторыкаў?**

– Як чалавеку мне цяжка жыць у страху. А страх прысутнічае ў нашым паўсядзённым жыцці, усе гатовы, што могуць прыйсці і па іх. Але як гісторыку мне страшэнна пашанцавала – на ўласныя вочы можна назіраць падзеі. Гэта рэдкая ўдача для гісторыка – стаць сведкам важнага гістарычнага працэсу. Як лётчык пікіруе ўніз, як апазіцыя сварыцца, як спрабуе аб'ядноўвацца, як развіваліся падзеі падчас маніфестацый – усё гэта цікава і будзе некалі вывучацца. А я, гісторык, жыву ў цэнтры важнага гістарычнага працэсу. Гэта проста падарунак лёсу!

**Міхась СКОБЛА.**

ПАМЯЦЬ

# 21 год таму знік Дзмітрый Завадскі

*Журналіст Дзмітрый Завадскі знік па дарозе ў аэрапорт Мінск-2 пры нявысветленых абставінах. Яму было 27 гадоў...*




За гэтыя гады праваахоўныя органы Беларусі так і не адказалі на пытанні, хто быў арганізатарам і выканаўцам гэтага злачынства і што насамрэч здарылася з Дзмітрыем.

Па факце знікнення Завадскага была ўзбуджана крымінальная справа па артыкуле «забойства», аднак потым абвінавачанне было перакваліфікавана на «выкраданне і незаконнае пазбаўленне чалавека волі».

14 сакавіка 2002 года Мінскі абласны суд прызнаў вінаватымі ў выкраданні Дзмітрыя Завадскага афіцэраў спецпадраздзялення МУС «Алмаз» **Валерыя Ігнатовіча** і **Максіма Маліка** (асуджаныя на пажыццёвае зняволенне), былога курсанта Акадэміі МУС **Аляксея Гуза** (асуджаны на 25 гадоў пазбаўленя волі), а таксама беспрацоўнага грамадзяніна **Сяргея Савушкіна** (ужо выйшаў на волю).

Паводле сцвярджэння абвінавачання, матывам злачынства стала помста: маўляў, Завадскі публічна абвінаваціў Ігнатовіча, якога зімой затрымалі ў Чачні, ва ўдзеле ў вайне на баку чачэнскіх байцоў. Аднак ніхто з асуджаных не прызнаў сваёй віны ні па адным з эпізодаў. Больш за тое, у інтэрв’ю **Ірыне Халіп** для «Новай газеты» пад загалоўкам «Праўда пра эскадроны смерці» былая жонка Дзмітрыя **Святлана Завадская** сказала, што ў судзе высветлілася: затрыманне здымаў не Першы канал, а НТБ і зусім іншы апаратар. Таксама аказалася, што следчыя перадалі справу ў суд, нават не высветліўшы час і месца злачынства.

Журналіст **Павел Шарамет** за два дні да пачатку судовага працэсу даў прэс-канферэнцыю ў Маскве, на якой распавёў, што выкраданне замовіў тагачасны генеральны пракурор Беларусі **Віктар Шэйман**. Вясной 2000 года ён займаў пасаду кіраўніка Савета бяспекі і мог быць зацікаўлены ў тым, каб знішчыць сведак дзеянняў беларускіх спецслужб у Чачні.

27 лістапада 2003 года суд Фрунзенскага раёна Мінска прызнаў зніклага журналіста памерлым. Між тым цела Дзмітрыя Завадскага дагэтуль не знойдзена.

20 ліпеня 2004 года на прэс-канферэнцыі **Аляксандр Лукашэнка** заявіў, што мае дакументы, якія могуць пераўтварыць справу Завадскага ў «антысправу». Што ён меў на ўвазе і чаму гэтыя дакументы дагэтуль не апублікаваныя – не вядома.

4 жніўня 2004 года маці Дзмітрыя **Вольга Завадская** звярнулася ў Пракуратуру Рэспублікі Беларусь з заявай аб аднаўленні справы: Вольга Рыгораўна патрабавала правесці пракурорскую праверку інфармацыі, агучанай Лукашэнкам. Аднак пракуратура не адрэагавала на яе заяву.

І далей расследаванне па справе аб знікненні Завадскага некалькі разоў аднаўлялася – *«у сувязі з наноў адкрытымі абставінамі»* – і прыпынялася зноў са спасылкай на *«невыяўленне без вестак зніклай асобы»*, аднак выніку не прынесла.

7 ліпеня 2005 года падчас акцыі «Ланцуг неабыякавых людзей» супрацоўнік АМАПа моцна ўдарыў Святлану Завадскую кулаком у твар.

Вясной 2016 года Святлана Завадская як пацярпелая па справе аб знікненні Завадскага двойчы звярталася ў Следчы камітэт з хадайніцтвам пра атрыманне інфармацыі па крымінальнай справе і копій шэрагу працэсуальных дакументаў.

Святлана Завадская прасіла Следчы камітэт паведаміць, ці аднаўлялася папярэдняе расследаванне справы, і калі не – то па якіх прычынах. Таксама яна прасіла выдаць ёй копіі пастаноў пра ўзбуджэнне крымінальнай справы, вылучэнне матэрыялаў у асобную вытворчасць і прыпыненне вытворчасці па крымінальнай справе. Яна ўказала, што копіі працэсуальных дакументаў ёй неабходны для абскарджвання дзеянняў (бяздзеяння) органа крымінальнага праследу.

У адказ Святлане Завадскай паведамілі, што вытворчасць па крымінальнай справе прыпынена і што закон не прадугледжвае права пацярпелага атрымліваць копіі названых працэсуальных дакументаў.

Палітыкі, журналісты і праваабаронцы лічаць, што Завадскага, а таксама **Юрыя Захаранку**, **Віктара Ганчара**, **Анатоля Красоўскага** выкралі так званыя эскадроны смерці. Паводле папярэдняга заключэння праваабаронцаў, асноўнымі падазраванымі па справе па выкраданнях і забойствах Захаранкі, Ганчара, Красоўскага і Завадскага з’яўляюцца **Віктар Шэйман** (тагачасны кіраўнік Савета бяспекі), **Юрый Сівакоў** і **Уладзімір Навумаў** (у розныя часы – міністры ўнутраных спраў), **Дзмітрый Паўлічэнка** (тагачасны камандзір в/ч 3214) і **Мікалай Васільчанка** (тагачасны начальнік Службы бяспекі прэзідэнта). Высновы беларускіх праваабаронцаў былі пацверджаны ў 2004 годзе ў адмысловым дакладзе дэпутата Парламенцкай асамблеі Савета Еўропы Хрыстаса Пургурыдэса, які праводзіў уласнае расследаванне.

Грамадскае аб’яднанне «Беларуская асацыяцыя журналістаў» заклікала прадстаўнікоў грамадзянскай супольнасці не забываць пра справу Завадскага і не даваць забыць яе ўладам да таго часу, пакуль мы не даведаемся ўсёй праўды пра гэтае злачынства, пакуль не будуць названы імёны яго натхняльнікаў і выканаўцаў. Кампетэнтныя органы павінны правесці поўнае і аб’ектыўнае расследаванне абставін знікнення Дзмітрыя Завадскага.

ПРОИСШЕСТВИЯ

# Сам накликал беду...





Посмотрите на эти снимки. Это в какую страшную аварию должна попасть машина, чтобы получить такие повреждения! И произошло это из-за, простите, безмозглости 17-летнего подростка.

Можете представить: он развил скорость 170 километров в час, в какой-то момент не справился с управлением, автомобиль занесло, и он перевернулся.

Согласитесь, человек сам накликал беду. И вообще можно ли такому доверять автомобиль? Зря знакомый дал ему ключи от своего авто, поддавшись на историю несовершеннолетнего парня о том, что ему больше негде переночевать, кроме как в машине. На самом же деле «бедолага» стал раскатывать на ней с друзьями по трассе Витебск–Сенно–Толочино. Понятно, в состоянии алкогольного опьянения. На 26-м километре и произошла авария. Хорошо, что хоть все остались живы.

РЕПРЕССИИ

# Юлию Чернявскую мучают сильные боли в спине

*Вдова Юрия Зиссера полтора месяца находится под домашним арестом. Конечно, это не перенаселенная камера без матрасов и с побудками среди ночи. Но можно предположить, что и домашнее замкнутое пространство очень плохо сказывается на здоровье немолодой женщины.*



Я позвонила ее маме, известному в прошлом психотерапевту, чтобы она рассказала о самочувствии дочери на данный момент, если имеет какие-то сведения от адвоката. **Александра Григорьевна ЧЕРНЯВСКАЯ** сказала со вздохом:

– Могу представить и без адвоката, что Юлии очень трудно. Она ведь гипертоник, а это влияет в том числе и на настроение: оно нестабильное. Плюс ко всему у дочери серьезное заболевание позвоночника, ее регулярно мучают боли в спине. Вот эту информацию мне передала адвокат. Дает о себе знать Юлии и давнишний очень сложный перелом ноги. Как видите, у человека, целый букет заболеваний. А она под арестом. Хотелось бы знать, за что? Тем не менее Юлия, как опять-таки рассказала адвокат, старается ходить по 5 тысяч шагов в день по лоджии. Скажу вам, что для нее это чуть ли не подвиг, она человек книги и письменного стола, совсем не пешеход, не путешественник. Но понимает, наверное, что иначе здоровье просто развалится. Вот и старается.

Еще знаю, что серьезно учит английский – это давно стояло в ее личных планах.

Как я? Стараюсь смотреть правде в глаза: без иллюзий, но и без истерик. Мы все окунулись сейчас в иную реальность. Но и в ней тоже происходят удивительные открытия. В восемь утра раздается звонок в дверь. Я грешным делом подумала, что ко мне пришли с обыском. Ну кто еще в такую рань? Открываю – стоит соседка. А мы знаем друг друга давно, но только шапочно, здороваемся, но никогда не разговаривали. И вдруг она мне говорит: «Сегодня день рождения вашего зятя, Юрия Зиссера. Разрешите, я отвезу вас на кладбище». Получается, совсем чужие люди помогают мне жить, терпеть и надеяться. Спасибо им!

**Елена МОЛОЧКО.**

ЛЁС ЧАЛАВЕКА

Надзея МЯЛЕШКА:

# «Вердыкт доктара: аперацыя больш не патрэбна, няма сэнсу...»

*Жонка вядомага экс-хакеіста зборнай Беларусі Дзмітрыя Мялешкі паведаміла, што хвароба зноў пачала прагрэсіраваць.*



*У студзені мінулага года* **Надзея Мялешка** *распавяла, што ўрачы знайшлі ў яе рак грудзей.*

*«30 снежня 2019 года я намацала ўшчыльненне ў грудзях, – паведаміла яна ў «Інстаграме». – Панікаваць не стала, бо за тры месяцы да таго была на абследаванні, і ўсё было добра. Але зноў пабегла правярацца.*

*8 студзеня я даведалася, што ў мяне рак грудзей. Трэцяя стадыя. Чаму раней гэта не выявілі? Таму што гэты від пухліны хутка развіваецца і мае агрэсіўны характар. Ён паспеў пракрасціся ў лімфавузлы».*

*Пасля гэтага Надзея стала паведамляць сваім падпісчыкам навіны пра свай стан і лячэнне. У Германіі ёй зрабілі аперацыю, туды адправілася ўся сям’я.*

*«Мне выдалілі абедзве малочныя залозы, прыбралі 26 лімфавузлоў і ўстанавілі імплантаты, – распавядала яна. – Калі мы з’язджалі ў Германію на лячэнне, не ведалі, колькі гэта зойме часу. Таму дзяцей вырашылі ўзяць з сабой. Душа на месцы, калі яны побач.*

*Пасля апраменьвання не абышлося без пабочных з’яў. У мяне абпалена скура, з’яўляюцца пухіры ў вобласці апраменьвання, мне балюча глытаць. За спінай – 8 месяцаў беспярапыннага цяжкага лячэння. 16 «хімій». 15 магутных апраменьванняў. Літры слёз за кадрам. Гігабайты страху, такога жывёльнага, за сваё жыццё.*

*Увесь гэты час я старалася ставіцца да раку як, скажам, да прастуды: трэба – лечым. Я не дапускала ў галаве думак, што наогул гэта гісторыя пра тое, што ці ты яго, ці ён цябе...*

*Я зноў ўсміхаюся простым рэчам: цёпламу сонцу, празрыстаму паветру, магчымасці любіць і марыць. Я апрану прыгожую сукенку, таму што я цудоўная і я – жывая!»*

*Надзея бязмежна радавалася і тады, калі доктар паведаміў ёй, што пачалася рэмісія:*

*«Рэмісія! Афіцыйна! У мяне заставаўся адзін метастаз. Усё выдалілі, усё чыста. Але менавіта ён адзін не даваў мне спакою. І тут прагучалі тыя самыя словы: «У вас – рэмісія!»*

*Надзея апублікавала відэа, у якім доктар паведамляе, што ў яе рэмісія. Пачуўшы гэтыя словы, жанчына расплакалася.*

*«Гэта відэа я буду пераглядаць кожны дзень, таму што да гэтага часу не веру», – напісала Надзея.*

І вось зараз Надзея Мялешка паведаміла, што ў яе зноў з’явіліся метастазы.

*«Удар у спіну*, – паведаміла яна. – *Прайшло ўсяго два месяцы пасля складанай аперацыі, калі ў мяне выдалілі сем метастазаў на печані...*

*Не люблю пісаць на тэму хваробы, але ведаю, што вы чакаеце і перажываеце, што кагосьці мой шлях падтрымае і дасць патрэбную інфармацыю. Многім людзям мая гісторыя нагадвае пра тое, наколькі крохкае наша жыццё, як важна яго шанаваць і дзякаваць за ўсё.*

*Некалькі дзён таму я зноў прайшла абследаванне КТ, і вынікі для мяне сталі шокам! Я не магла гаварыць і дыхаць, не магла паверыць...*

*Метастазы вярнуліся. Ізноў у печань. Вердыкт доктара: аперацыя больш не патрэбна, няма сэнсу.*

*Дзякуючы новаму прэпарату «Алапарыб» у мяне прайшлі метастазы на грудзях, мая вера ў гэтыя таблеткі была непахісная!*

*Я ведаю, што прэпарат працуе год, два, а потым арганізм прызвычайваецца, і трэба шукаць новае рашэнне. Але ж навука не стаіць на месцы, абавязкова нешта прыдумаюць.*

*Я не хачу думаць пра дрэннае. Не хачу і не буду. Папрасіла свайго доктара пра новае КТ праз два, а не праз тры месяцы.*

*Урачы лічаць, што хіміятэрапія таксама не дапаможа, таму ўся надзея, што запрацуе «Алапарыб». Дык не падвядзіце мяне, цудтаблеткі! Мне яшчэ столькі трэба паспець у гэтым свеце!*

*Бачыць, як растуць мае дзеці, кожную раніцу бачыць усмешку Дзімы, захапляцца яго фірмовымі сняданкамі, спяваць песні на ўвесь голас падчас нашых аўтамабільных падарожжаў. Атрымліваць асалоду ад кожнага заходу сонца і кожнага світання. Вярнуцца дадому і абняць Зосю. Правесці выпускны для маіх першых і другіх мялешак.*

*Я ведаю дакладна, што патрэбна гэтаму свету! Веру, што ўсё будзе добра! Галоўнае, што ў мяне ёсць, – ваша падтрымка і мая вера».*

**Сяргей ЗАБЛОЦКІ.**

ПА-ЗА ГУЛЬНЁЙ

# У «Віцебска» праблемы з грашыма

*Ігракі клуба атрымалі паведамленні аб змене ўмоў аплаты працы.*

Пасля першага круга «Віцебск» займае ў турнірнай табліцы 8-е месца – у 15 гульнях каманда набрала 20 ачкоў. Але ў хуткім часе ў клуба могуць узнікнуць дадатковыя праблемы.

*«У чэмпіянаце перапынак, адкрылася трансфернае акно, але, на жаль, кадравымі ўзмацненнямі парадаваць нашых балельшчыкаў не зможам,* – шчыра прызнаўся на клубным сайце дырэктар «Віцебска» **Мікалай Вайцюхоўскі**. – *Першы круг каманда гуляла, не атрымліваючы некаторых выплат, што абяцаліся раней. Я ўдзячны хлопцам за тое, што яны з разуменнем паставіліся да сітуацыі і выконвалі сваю работу. А ўвогуле з нечаканымі непаступленнямі спонсарскіх сродкаў мы сутыкнуліся яшчэ ў снежні мінулага года. Тады ўдалося гэта перакрыць грашыма, якія атрымалі за трансферы Шкурына, Пячэніна, Волкава і арэнду Дыега. У гэтым годзе фінансавая сітуацыя па не залежных ад клуба прычынах яшчэ больш пагоршылася».*



Мікалай Вайцюхоўскі кажа, што не можа каментаваць, чаму клуб патрапіў у фінансавую яму, пра гэта лепш спытацца ў кіраўніцтва абласнога ўпраўлення спорту.

*«Але на сённяшні дзень мы выплацілі ўсе даўгі перад камандай,* – дадае дырэктар клуба. – *Разумеем, што ў далейшым абавязацельствы перад ігракамі выконваць не зможам. Футбалісты атрымалі паведамленні аб змене ўмоў аплаты працы і ў выпадку нязгоды могуць пакінуць клуб. Выключэнне складаюць ігракі, у якіх з клубам доўгатэрміновыя кантракты.*

*Такое рашэнне было нялёгка прыняць, але гэта лепш, чым трымаць людзей у сітуацыі нявызначанасці і ствараць даўгі. Зараз чакаем рашэння кожнага, а трэнерскі штаб прыглядае моладзь на магчымыя вакансіі».*

**Алесь СІВЫ.**

ЗАКУЛІССЕ

# У Аляксандра Глеба адкрылася другое дыханне

*40-гадовы футбаліст вырашыў працягнуць футбольную кар'еру ў Бахрэйне, хаця не выходзіў на футбольнае поле з 2019 года.*

**Аляксандр Глеб** – былы футбаліст нямецкага «Штутгарта», англійскага «Арсенала» і іспанскай «Барселоны». Апошнім яго клубам была «Іслач» з Мінскага раёна, а вясной мінулага года Глеб аб'явіў пра завяршэнне кар'еры.

У складзе зборнай Беларусі паўабаронца правёў 80 матчаў і забіў 6 галоў.

Апошнім часам Аляксандр Глеб займаўся рыбалкай, сям'ёй і хатнімі справамі. На пачатку гэтага года стала вядома, напрыклад, што ён атрымаў 25 сотак для будаўніцтва дома ў вёсцы Лапаровічы на беразе Мінскага мора па суседстве з участкамі французскага акцёра Жэрара Дэпардзье і біятланісткі Дар'і Домрачавай.

Паводле звестак «Трыбуны», Глеб, каб атрымаць зямлю, напісаў прашэнне на імя Аляксандра Лукашэнкі і заплаціў за ўчастак 137 тысяч долараў – у 2,5 раза больш за яго кадастравы кошт.

*«Усё, што гэта сметніца «Трыбуна» выкладвае, – мне па барабане,* – пракаментаваў затым футбаліст паведамленні ў СМІ. – *Мне што, апраўдвацца перад кожным, хто будзе пытацца, навошта мне белыя красоўкі, навошта мне чырвоныя штаны або навошта мне ўчастак? Ну захацеў – і ўсё. Гэта мая мара была».*




У футбольнай хроніцы прозвішча Глеба перасталі ўзгадваць, але зараз стала вядома, што беларускі паўабаронца падпісаў кантракт з клубам «Халід» з Бахрэйна. І гэта была даволі нечаканая навіна!

«Халід» быў заснаваны напрыканцы 2020 года. Каманда змагла перамагчы ў другой лізе і заваяваць пуцёўку ў вышэйшы дывізіён чэмпіянату Бахрэйна.

Дарэчы, падчас свайго візіту ў Бахрэйн Аляксандр Глеб сустрэўся з кіраўніком НАК гэтай краіны **Махамедам Аль-Нісфам**.

Гэта не першы выпадак, калі ігракі ў «пенсіённым» для футбола ўзросце працягвалі кар'еру. Напрыклад, перуанскі форвард **Клаўдзіа Пісара** ў 41 год гуляў за нямецкі «Вердэр», а японскі футбаліст **Кадзуёсі Міура** і ў 52 гады выступаў за клуб «Ёкагама».

Чаму б і не зарабіць капейку, калі здароўе дазваляе?

**Алесь СВЯТЛАНІЧ.**

КРЫЖАВАНКА

# Ліпеньскія перапевы



**Па гарызанталі:** 1. …, Зелянец, Тройца – старажытнае земляробчае свята, на якое галінкамі ліпы, бярозы, клёну ўпрыгожвалі хату і гаспадарчыя пабудовы. 5.«… пчоламі гудзе соладка» – верш Л.Геніюш. 8.«Ліпы ўсім закаханым на … // Сыплюць і сыплюць з пялёсткаў вянкі» – з верша С.Грахоўскага «Белыя ліпы». 10.Наследны тытул вышэйшага дваранства ў Англіі. 12. … ды лебяда – для палеткаў бяда (прык.). 14.Абаронца. 15.Хата з дзяцьмі – …, без дзяцей – магіла (прык.). 17.Піражок з мясной начынкай. 18.«На вуліцы суха ліпа , // Пайду … за Піліпа» – з прыпеўкі. 19.Насенне гарбуза, сланечніка як ласунак (разм.). 20.Тое, што і вянец. 21.Маленькая рыбка сямейства карпавых. 23.Галоўны горад краіны. 27.На лаўца і … бяжыць (прык.). 29. …, ці Гаёвы дзед, – дух, які, паводле павер'яў, сочыць за парадкам у лесе. 30.Гаспадарку весці – не … плесці (прык.). 31.Самае запаведнае месца чаго-небудзь. 32.Прылада, якой кляймуюць.

**Па вертыкалі:** 2. Цвет – пчолкам, а … – жонкам (прык.). 3.Апалыя ад ветру плады. 4.Сухое … не высушыць, а мокрае вымачыць (прык.). 5.У лета двойчы з ліпы … не дзяруць (прык.). 6.Заяц для лісы не сябра, а … (прык.). 7.Праца чорная – белы … (прык.). 9.«Вольныя … вакол шчабяталі, // Божыя пчолкі гулі» – з верша Я.Коласа «Ліпы старыя». 11.Поўнае вытлумачэнне чаго-небудзь. 13.У добрага гаспадара і … не прападзе (прык.). 16.Ядомы грыб. 17.«Аб ёй мне будзіць успамін // На ліпе … клёкатам» – з верша Я.Купалы «Спадчына». 18.У кветцы ніжняя частка песціка. 22.«Ой, едзь, не стой, // У цябе … не свой, // Дуга ліпавая // Падскрыпывае» (прыпеўка). 24.Стары воўк ведае … (прык.). 25.Гнілая … сто год стаіць (прык.). 26.З мёдам і … праглынеш (прык.). 28.Умеламу пчаляру і … верыць (прык.). 29.«Гай цвітучы або ліпа ў цвеце – // Для пчалы найлепшы дар на свеце» – з верша В.Гардзея «Адкуль мядзведзь?».

## Адказы на крыжаванку

**Па гарызанталі:** 1.Сёмуха. 5.Ліпень. 8.Плечы. 10.Лорд. 12.Асот. 14.Адвакат. 15.Базар. 17.Беляш. 18.Замуж. 19.Семкі. 20.Вянок. 21.Лінёк. 23.Сталіца. 27.Звер. 29.Гаюн. 30.Лапці. 31.Тайнік. 32.Кляймо. **Па вертыкалі:** 2.Мёд. 3.Апад. 4.Лета. 5.Лыка. 6.Ежа. 7.Хлеб. 9.Птушкі. 11.Разуменне. 13.Саломінка. 16.Рыжык. 17.Бусел. 18.Завязь. 22.Конь. 24.Толк. 25.Ліпа. 26.Цвік. 28.Рой. 29.Гай.

**Лявон ЦЕЛЕШ. г.Дзяржынск.**

СТАРАЖЫТНЫЯ САКРЭТЫ

# Маслам кашу не сапсаваць



Пра чалавека, які жыве ў дастатку, нашы продкі казалі «Качаецца, як сыр у масле». Таму што менавіта гэты прадукт здаўна лічыўся сімвалам дастатку. Вяскоўцы, жадаючы мець дабрабыт на працягу года, абавязкова ставілі масла на святочны стол падчас рэлігійных ці абрадавых свят.

У старажытнасці, як сцвярджаюць гісторыкі, каровіна масла ўмелі гатаваць толькі паноўночнагерманскія плямёны. Пазней маслабойні з'явіліся ў галаў. Доўгі час масла заставалася вельмі дарагім ласункам, і толькі ў Сярэднявеччы пры Карле Вялікім яно стала больш распаўсюджаным прадуктам. Таксама вядома, што ў VIII стагоддзі нарвежцы бралі з сабой у далёкае плаванне запасы сметанковага таплёнага масла ў бочачках. У італьянцаў гэты прадукт з'явіўся толькі ў IX стагоддзі, доўгі час масла лічылася прадметам асаблівай раскошы, недаступным для большасці.

Што тычыцца беларускіх тэрыторый, нягледзячы на развіццё жывёлагадоўлі, нельга казаць пра існаванне тут маслаbooробства. Надоі былі невялікія яшчэ нават напрыканцы XIX стагоддзя.

Вяскоўцы з малака атрымлівалі смятану, тварог, а масла елі толькі па вялікіх святах: Каляды, Вялікдзень, Купалле, Масленіца, вяселле і радзіны. Гісторык Алесь Белы ў сваёй кнізе «Нашы стравы» піша, што сітуацыя з маслам памянялася толькі напрыканцы XIX – на пачатку XX стагоддзя, калі адбылося імклівае развіццё малочных сялянскіх арцеляў і найперш на поўначы Беларусі. Асабліва шмат іх было ў Дзісенскім павеце – цяперашніх Мёрскім, Шаркаўшчынскім, Глыбоцкім, Пастаўскім раёнах Віцебскай вобласці. З гэтых земляў праз Рыгу дзісенскае масла трапляла да еўрапейскага спажыўца. Якасць яго была высокая, таму гэты прадукт чакалі і ў Гановеры, Дармштаце, Гамбургу, Парыжы. Асабліва паспяхова развіваўся экспарт у Англію, дзе дзісенскае масла пад маркай галшцінскага займала адно з першых месцаў у англійскім рэйтынгу. Дарэчы, яно каштавала на 2–4 шылінгі даражэй за фунт, чым іншыя гатункі масла з Расійскай імперыі. На жаль, пасля Першай сусветнай вайны замежны рынак збыту і высокая рэпутацыя дзісенскага масла былі страчаны назаўсёды. Выраблялася гэта масла з падсоленых кіслых вяршкоў, а на продаж фасавалася па 50–60 кілаграмаў у альховыя бочкі, абшытыя чыстай рагожай, з вушкамі для пераноскі.

Каб масла доўга захоўвалася, яго салілі буйной соллю і піератоплівалі. Правільна прыгатаванае топленае масла не псавалася больш за чатыры гады! На топленым масле смажылі, запраўлялі ім кашы і бульбу, стравы з мукі і дадавалі ў цеста.

Вядома, цяпер у гіпермаркеце немагчыма набыць масла, зробленае са смятаны па той тэхналогіі, якой карысталіся нашы продкі вякамі і якую цяпер часткова захоўваюць некаторыя вясковыя гаспадыні. Сёння ў продажы сметанковае масла, для якога не патрабуецца чакаць адстойвання вяршкоў і смятаны. Яго выраблююць пры дапамозе сепаратараў і сучасных тэхналогій. Смак яго, канешне ж, адрозніваецца ад хатняга.

### Парады руплівай гаспадынькі

Каровіна масла доўга захавае свой смак, калі абгарнуць яго кавалачкам тонкай тканіны, намочанай у воцаце, і пакласці пад перакуленую глыбокую міску. Таксама варта пакласці туды два кавалачкі цукру.

Для працяглага захавання вяршковае масла соляць. Калі для гэтага бяруць буйную соль, то масла становіцца плямістым. Таму лепей з гэтай мэтай прыгатаваць двухпрацэнтны раствор солі, перамяшаць з ім масла, скласці ў посуд і заліць салёным растворам зверху, каб і верхні слой дарагога прадукту не псаваўся.

Яшчэ даўжэй захоўваецца топленае масла. Калі ў слоік з топленым каровіным маслам наліць зверху слой растопленага авечага ці ялавічынага тлушчу, то такім чынам масла можа захоўвацца некалькі гадоў.

**Ларыса МЯТЛЕЎСКАЯ.**
**Фота аўтара.** *«Алеся».*

ПРАПАНУЕМ ЗРАБІЦЬ

## Масла і сырнікі па старажытных беларускіх рэцэптах беларускіх

Як цяпер, так і ў даўніну, каб зрабіць масла разнастайным па смаку, яго салілі, саладзілі і дадавалі розныя інгрэдыенты. Так, у часы, калі было папулярнае дзісенскае масла, у заможных гараджан і шляхты на сняданак падавалі «масла англійскае». Каб сёння адчуць смак гісторыі, давядзецца схадзіць на кірмаш і набыць хатнюю густую смятану, а калі такой няма, то вазьміце высакаякаснае магазіннае масла і паспрабуйце прыгатаваць яго інакш.

### Масла англійскае

***Інгрэдыенты:*** *1,5 літра смятаны; 200 грамаў цукру; ваніль або любая эсэнцыя; вяршковы заварны соус.*

***Як гатаваць:*** густую свежую смятану напалову ўзбіць на лёдзе калатоўкай. Калі пачне гусцець, дадаць 100 грамаў дробнага цукру і крыху парашку ванілі ці іншай духмянай эсэнцыі або ружавай вады для паху. Добра вымешаць, пакласці ў палатняную (лепш ільняную) сурвэтку, моцна абвязаць і павесіць на ноч у лядоўні. Раніцай выняць з сурвэткі на талерку і заліць вяршковым заварным соусам з цукрам і жаўткамі.

### Вяршковы заварны соус

***Інгрэдыенты:*** 0,5 літра вяршкоў; 6 жаўткоў; 200 грамаў цукру; кавалачак ванілі.

***Як гатаваць:*** ваніль папярэдне растаўчы і загарнуць у палатно. Апусціць мяшэчак з ваніллю ў вяршкі, давесці да кіпення і астудзіць. Ваніль выняць. Жаўткі расцерці з цукрам, змяшаць з вяршкамі і нагрэць, увесь час памешваючы, да загусцення.

### Топленае масла

***Інгрэдыенты:*** 500 грамаў вяршковага масла, 1 літр вады, соль.

***Як гатаваць:*** наліць у каструлю гарачую ваду, пакласці туды масла і, увесь час мяшаючы, грэць на малым агні. Рабіць гэта лепей на пліце. Як толькі масла растопіцца, зняць пасудзіну з агню і астудзіць.

Калі масла добра застыне, каля сценкі каструлі ў ім зрабіць маленькую дзірку і праз яе зліць ваду. Яна будзе амаль белага колеру – гэта значыць, што ў масле мелася шмат малочных часцінак. Каб яно ачысцілася цалкам, варку трэба паўтарыць тры ці чатыры разы.

Каб масла лепей захоўвалася, яго соляць па густу і заліваюць у слоікі. Калі масла няшмат, яго можна не саліць. Захоўваць у халодным месцы.

### Сырнікі вараныя

***Інгрэдыенты:*** 0,5 кілаграма тварагу, 6 яек, 3–4 ст.лыжкі смятаны, 120 грамаў мукі, 2–3 ст.лыжкі масла, соль.

***Як гатаваць:*** расцерці свежы (не перагрэты) тварог, дадаўшы па адным усе яйкі, некалькі лыжак не ўкіслай смятаны. Пасаліць і дасыпаць столькі мукі, каб маса раскатвалася на стале. Калі ў масе зусім не застанецца камякоў тварагу і яна стане пульхнай, пасыпаць стол мукой, зрабіць з цеста валікі, сплюснуць іх, намеціць тыльным бокам нажа роўныя кавалачкі, пакроіць наўскос і апусціць ў падсолены кіпень. Як толькі сырнікі ўсплывуць, адцадзіць на друшляк. Падаваць з растопленым маслам або смятанай.

Можна таксама абсыпаць звараныя сырнікі цёртымі сухарыкамі, пакрапіць маслам і ўставіць у печ або духоўку. Запякаць да ўтварэння румянай скарыначкі – хвілін 20 у залежнасці ад гарачыні ў духоўцы ці печы. Атрымаюцца сырнікі запечаныя – смачныя і далікатныя.

Адрас рэдакцыі: 220030 Мінск, вул.Энгельса, 34а.
Прыёмная: тэл./факс (017) 326-68-71
Рэкламны аддзел (017) 363-66-04
nvonlineinfo@gmail.com
http://www.nv-online.info
Падпісныя індэксы:
63222 – для індывідуальных падпісчыкаў,
632222 – для прадпрыемстваў і арганізацый.
Заснавальнік, выдавец і галоўны рэдактар Іосіф Паўлавіч СЯРЭДЗІЧ